

# ДОБРЫ ВЕЧАР

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ЛІСТАПАД 15 Панядзелак

№ 215 (650)

Цана 20 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### НАСТАЎНІКІ ГУБЛЯЮЦЬ ЦЯРПЛІВАСЦЬ

Як стала вядома БелаПАН, Рэспубліканскі камітэт прафсаюза працаўнікоў народнай адукацыі і навукі прапрацоўвае пытанне аб правядзенні да 10 снежня бягучага года рэспубліканскай канферэнцыі прадстаўнікоў працоўных калектываў. У выпадку, калі да гэтага часу Вярхоўны Савет не вырашыць станоўча пытанне пра павышэнне заработнай платы працаўнікоў гэтай галіны, на канферэнцыі будзе пастаўлена пытанне аб правядзенні агульнарэспубліканскай галіновай забастоўкі.

Ёсць, аднак, надзея, што такой крайняй меры можна будзе пазбегнуць: пытанне павышэння зарплаты прадстаўнікам народнай адукацыі і навукі ўключана ў парадак цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета.

Ірына ЛЕЎШЫНА.

### О РУССКОМ ПОЭТЕ ЗАМОЛВИЛИ СЛОВО

**На днях в библиотеке имени Пушкина состоялся вечер, посвященный памяти Сергея Есенина, организованный обществом русской культуры «Русь». Собравшихся «согрели» в этот морозный вечер прекрасно исполненные Людмилой Удовиченко и Лилией Вечерской произведения на стихи поэта. Особенно проникновенно прозвучали романсы «Побудь со мной», «Не уезжай ты, мой голубчик», «Забыли вы...».**

**Посвященную Есенину позму «Времена года» прочел Алексей Кулешов.**

**Режиссер Юрий Озаренок, который в своей картине «Меня хотят убить» пытался докопаться до тайны гибели Есенина, рассказал о том, что осталось «за кадром». Сергей Выдрин и Владимир Гостюхин прочитали стихи Есенина.**

**Николай ВАСИЛЕВСКИЙ.**

### «СЧИТАТЬ ПО-НАШЕМУ, МЫ ВЫПИЛИ НЕМНОГО...»

В некоторых магазинах города Минска в последнее время с трудом можно купить водку. Почему? За уточнением корреспондент РИДа обратился к заместителю генерального директора производственного объединения «Кристалл» Вениамину Лилю.

— Лимитные поставки крепких напитков городу нами выполняются, — ответил В.Лиль. — Производство работает нормально. Например, за прошлый месяц минчанам отгружено дополнительно 15 тысяч декалитров спиртного. Ежедневно городу поставляется 7,5 тысячи декалитров. Дело, очевидно, в том, что любители «змия» стали чаще с ним «встречаться»...

Анатолий РОМАНОВИЧ.

### ЗВУЧИ, ДЖАЗ!

**15 ноября в Концертном зале Белгосфилармонии состоится выступление Государственного концертного оркестра Республики Беларусь под руководством Михаила Финберга.**

**Оркестр подготовил совершенно новую оригинальную джазовую программу под названием «Джем-сейшн». В концерте примет участие известный джазовый исполнитель Валерий Дайнека. В качестве гостя приглашен композитор, президент Международной джазовой ассоциации России Юрий Саульский.**

**В беседе с корреспондентом РИДа Г.Б.Гаврис, президент фирмы «Рамос», выступающей спонсором программы, сказал: «Джаз — музыка, объединяющая все поколения. То, что делает оркестр Финберга для развития музыкальной культуры Беларуси, несомненно требует всесторонней поддержки».**

### КОРАТКА

*Мінгарвыканкам стварыў гарадскую камісію па барацьбе з п'янствам. Для арганізацыі работы па прафілактыцы п'янства і алкагалізму будуць ствараца аналагічныя раённыя камісіі.*

*Узначальвае гарадскую камісію першы намеснік старшыні Мінгарвыканкама У.М.Ярмошын.*

*У яе таксама ўвайшлі — намеснік начальніка УУС І.М.Срыбны, інструктар гарвыканкама (сакратар камісіі) А.А.Гіль, начальнік упраўлення аховы здароўя Мінгарвыканкама У.Л.Белякоў, начальнік упраўлення гандлю Мінгарвыканкама Л.Р.Валадзько, начальнік упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама Г.Д.Дылян, начальнік упраўлення грамадскага харчавання Мінгарвыканкама М.П.Нарэйка, в.а. начальніка ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама А.Я.Пятровіч.*

* * *

***20 НОЯБРЯ** состоится 2-й съезд Беларускага згуртавання вайскоўцаў.*

***Заседание съезда, на который приглашены в качестве гостей представители партий и движений национально-демократического направления, пройдет в минском Доме литератора.** Кроме отчета руководящих органов, обсуждения вопросов об изменениях в Уставе БЗВ, ожидается принятие нескольких резолюций, темы и адресаты которых в беседе с корреспондентом агентства РИД Н.Статкевич пока не назвал, а лишь заметил: «Мы не собираемся в очередной раз ругать правительство, но все же это будут довольно неожиданные заявления».*

## У МІНГАРВЫКАНКАМЕ

# ХУТКА БУДЗЕМ ПЛАЦІЦЬ ЗА ПРАЕЗД ЧВЭРЦЬ ЯГО КОШТУ — 50 РУБЛЁЎ

Тамара МАРКІНА.

Гэта рашэнне было прынята на чарговым пасяджэнні Мінгарвыканкама ў мінулы чацвер. Так што з 20 лістапада на кожную паездку ў аўтобусе, тралейбусе, трамваі, метро ў Мінску рыхтуйце, паважаныя пасажыры, паўста рублёў. У аўтобусах з экспрэсным рэжымам руху плата адпаведна 100 рублёў. Кошт праязнога на ўсе віды транспарту з наступнага месяца складзе 6 тысяч рублёў;

у аўтобусе — 3500 рублёў;
метро — 3500 рублёў;
трамваі — 3500 рублёў;
гарадскім аўтобусе-экспрэсе — 5000 рублёў;
аўтобусе-тралейбусе — 4500 рублёў;
аўтобусе-трамваі — 4500 рублёў;
трамваі-тралейбусе — 4500 рублёў;
аўтобусе-трамваі-тралейбусе — 5500 рублёў.

Крыўдна, канешне, пры нашай беднасці выкладваць такія грошы за праезд. Але ж у апошні час рэзка ўзраслі цэны на паліва, змазачныя матэрыялы, запчасткі, шыны, цеплавую і электрычную энергію, за якія трэба разлічвацца прадпрыемствам гарадскога пасажырскага транспарту. Менавіта таму павышэнне тарыфаў на праезд пасажыраў і правоз багажу — мера вымушаная.

Між тым новы кошт праезду складзе толькі 25 працэнтаў ад сумы, затрачанай на ўмоўнага пасажыра. Астатняе гарадскі транспарт «дабірае» з гарадскога бюджэту. Дарэчы, у кастрычніку наступнага года мы, пасажыры, мусіць, будзем ужо аплачваць 75% кошту затрат на наш праезд. А пакуль сённяшнія нашы 50 рублёў складуць толькі 25%.

На гэтым жа пасяджэнні быў разгледжаны шэраг іншых пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця Мінска. Аб іх «Добры вечар» раскажа ў наступных нумарах.

## КАЛЯНДАР

Панядзелак, 15 лістапада

*СОНЦА — 7.36/16.12.*

*Даўжыня дня — 8.36.*

*МЕСЯЦ — маладзік 13 лістапада,*

*усход 8.13/захад 15.59.*

### ІМЯНІНЫ

*Сёння:*

*Праваслаўныя — Акіндзіна, Еўпідыфора, Анемпадыста, Маркіяна.*

*Каталіцкія — Альбэрта, Леапольда.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя — Акепсіма, Язэпа, Аіфала.*

*Каталіцкія — МАЦІ БОЖАЕ ВОСТРАБРАМСКАЙ, МАЦІ БОЖАЕ МІЛАСЭРНАСЦІ.*

## ЭТО ФАКТ

### ЛУЧШИМ ПРИСВОЕНА СТИПЕНДИЯ. ИМЕННАЯ

Семь дипломов о присвоении стипендии имени П.М.Машерова были вручены лучшим студентам вузов СНГ во время открытия международной ярмарки «Терра».

Стипендии, утвержденные закрытым акционерным обществом «Фрам», вручили президент общества Борис Клименко, вдова Петра Мироновича Полина Андреевна и его сестра Надежда Мироновна.

Как передал корреспондент РИДа, лауреатами стали студенты Белорусского государственного университета, Высшего военного училища, Российской театральной академии, Московской государственной академии управления. Среди награжденных — студентка факультета журналистики БГУ Марина Гуляева.





## ГОВОРЯТ

### КОНЦА СВЕТА НЕ БУДЕТ. ПОКА

**Как стало известно корреспонденту РИДа, в Киеве во время драки активистов Великого Белого Братства с работниками органов правопорядка были задержаны Юрий Кривоногов и его жена Марина Цвигун, известная как Мария Деви Христос. Похоже, что конец света, обещанный ими 24 ноября, теперь уже точно не состоится. Это подтвердил и Юрий Кривоногов, заявивший, что пока Мария Деви Христос жива, конца света не будет.**

**Л.ВЛАДИМИРОВ, РИД.**

## АКЦЫЯ

### ПЕРАМАНІЦЬ «СЯБРОЎ» У ЗША НЕ АТРЫМАЛАСЯ

З гастроляў па Злучаных Штатах Амерыкі вярнуліся ўдзельнікі студыі «Сябры». Іхні амаль двухмесячны гастрольны шлях пралёг праз Нью-Йорк, Саўт-Рывер, Кліўленд і Чыкага. «Сябры» выступілі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з канцэртам памяці Максіма Гарэцкага, далі пяць канцэртаў для беларусаў Амерыкі і яшчэ некалькі — для навучэнцаў амерыканскіх каледжаў. Апошнія, паводле сведчання мастацкага кіраўніка студыі Анатоля Ярмоленкі, асабліва ўпадабалі беларускую польку, нават танцавалі пад гэту музыку. Заўсёды цёпла прымалі «Сяброў» і нашы суайчыннікі ў ЗША.

Па звестках БелаПАН, удзельнікам студыі прапаноўвалі нават застацца на пастаяннае жыхарства ў Амерыцы і працу там. Зрэшты, на такія запрашэнні «Сябры» загадзя адказалі адной са сваіх песень. Памятаеце, — «калі нават паеду са сваёй Беларусі, то яшчэ да світанку на снядане вярнуся...».

Алесь ЛІПАЙ, БелаПАН.

## МІНСК ТЭАТРАЛЬНЫ

# УЛАЗІНЫ ТЭАТРА

Іван ЧАРКАС.

Амаль паўгода не паказваў сваіх спектакляў самы малады ў рэспубліцы тэатр-лабараторыя беларускай драматургіі «Вольная сцэна». Увесь гэты час у ім гаспадарылі будаўнікі і мантажнікі: мянялі аблічча глядзельнай залы, нарошчвалі сцэнічную пляцоўку, ахарошвалі вестыбюлі, словам, рабілі ўсё неабходнае, каб старая непрыстасаваная актавая зала інфармацыйна-вылічальнага цэнтра «Мінсельгасхарча» па вул.Крапоткіна, 44 задаволіла патрэбы тэатра і гледачоў. 18 лістапада «вольнасцэнаўцы» пачынаюць свой трэці сезон. Да сябе на ўлазіны яны запрасілі мінскія тэатры, мастацкія калектывы: «Госціцу», «Валачобнікаў», «Беларускую капэлу», «Камалот» і іншых сваіх сяброў.

Свята пачнецца а 17 гадзіне развітаннем з малой купалаўскай сцэнай прама на вуліцы і завершыцца хрэсьбінамі тэатра ў новым памяшканні з сапраўднай «бабінай кашай», катаннем на баране і выступленнямі запрошаных на ўрачыстасць гасцей.

Літаральна незадоўга перад адкрыццём сезона кіраўніцтва тэатра вырашыла пакідаць для малазабяспечаных пенсіянераў, інвалідаў і ветэранаў вайны на кожны спектакль 10 бясплатных месцаў. Іх можна будзе заказваць у дзень спектакля па тэл. 34-60-08 з 11 да 12 гадзін.

## ФОТОФАКТ

Этот валютный магазин находится по улице Карла Маркса в Минске. Генеральным директором его является Элла Татаринова — бывший кандидат филологических наук, преподаватель иностранных языков. Это ее детище, которое создано по европейским стандартам и при помощи деловых партнеров из Италии, Германии и частной белорусской компании «Эсканимо».

В «Колумбусе», так называется магазин, для покупателей богатый выбор одежды и разнообразных товаров для взрослых и детей.

**НА СНИМКАХ: хозяйка магазина «Колумбус», генеральный директор частной компании Элла Татаринова; в торговом зале магазина «Колумбус».**

Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БЕЛИНФОРМ.

## О, ВРЕМЕНА! О, ЦЕНЫ!

**В эту рубрику, которая, к несчастью, стала традиционной в нашей газете, материал приходится не искать, а отбирать. Ибо ежедневно, а то и ежечасно новые ценники угрожающими своими цифрами повергают в шоковое состояние посетителей магазинов, клиентов иных учреждений.**

**Недавно в очередной раз «порадовали» транспортники. Отныне тариф на поездки в транспорте междугородного сообщения возрос в два раза. Думается, что охать в данном случае бесполезно, ибо все идет к тому, что это только начало. Организации, осуществляющие пригородные перевозки, тоже в трудном положении. Давно уже «жалуются» на свою жизнь и представители городских транспортных служб.**

### АВТОМОБИЛИ ВАЗа СРАВНЯЛИСЬ С ИНОМАРКАМИ. ПО ЦЕНАМ

Как сообщили корреспонденту РИДа в магазине по продаже автомобилей акционерного общества «Лада», автомобили марки «ВАЗ» поднялись в цене на 50 процентов. Так, самый дешевый, «Ока» обойдется сейчас покупателям в 4,3 млн.рублей. Модель «99» стоит уже 13,5 млн.рублей плюс 25-процентный налог на добавочную стоимость. Таким образом, цены сравнялись со стоимостью зарубежных автомобилей среднего класса. Например, новенький «Опель» можно купить теперь за 10 тысяч долларов. Как уточнили в магазине, подорожал и «ГАЗ» — с 3,102 млн.рублей до 16,5 млн.рублей.

Анатолий РОМАНОВИЧ, РИД.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в обменных пунктах коммерческих банков г.Минска и официальный курс, установленный Национальным банком на 15 ноября 1993 года

| Наименование банка | Доллар США: Покупка, Наличный расчет | Доллар США: Покупка, Чековая книжка | Доллар США: Продажа | Немецкая марка: Покупка, Наличный расчет | Немецкая марка: Покупка, Чековая книжка | Немецкая марка: Продажа | Российский рубль: Покупка | Российский рубль: Продажа |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Минское отделение АРКБ "Комплекс" | 3720 | 4090 4700 | 3870 | 2205 | 2420 2780 | 2295 | 2.90 | 3.05 |
| АКБ "Белбизнесбанк" | 3750 | 4125 | 3990 | 2200 | 2420 | 2400 | 3.20 | 3.50 |
| АКБ "Белорусский народный банк" | 3600 | --- | 3850 | 2125 | --- | 2285 | --- | 3.20 |
| АКБ "Белпромстройбанк" | 3700 | --- | 3820 | 2180 | ** | 2300 | --- | --- |
| АКБ "Беларусь" | 3975 | 4680 | --- | 2437 | 2880 | --- | --- | 4.50 |
| АКБ "Дукат" | Сведения не предоставлены | | | | | | | |
| АКБ "Поиск" | Сведения не предоставлены | | | | | | | |
| АКБ "Приорбанк" | 3850 | 4180 | 3870 | 2300 | 2530 | 2345 | 2.80 | 3.20 |
| КБ "Северо-запад" | 3822 | 4508 | 4500 | 2303 | 2400 | 2650 | --- | --- |
| Национальный банк РБ | 5305.00 | | | 3325.00 | | | 4.00 | |

** -- не принимают

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова". Тел./факс (0172) 31-04-02

## Крымвесткі БелаПАН

### МЕСЦА СУСТРЭЧЫ ПРЫЗНАЧЫЎ ЗАБОЙЦА?

Зводкі масавай інфармацыі паведамілі аб забойстве ў Мінску маладой жанчыны і дзіцяці. Яны былі знойдзены ў кватэры з перарэзаным горлам. З каштоўных рэчаў прапаў толькі відэаплэйер. Падазрэнне пала на 25-гадовага суседа Н., які адразу ж пасля забойства пазваніў у Фрунзенскі райаддзел міліцыі і паведаміў прыкладна наступнае: «Я ўвесь у крыві, але я не забіваў». Прынятымі захадамі былі блакіраваны ўсе месцы магчымага з'яўлення падазронага. Відаць, адчуўшы гэта, Н. зноў выйшаў на сувязь, на гэты раз — праз пасрэдніка — сваю сяброўку, — і прызначыў час і месца сустрэчы з супрацоўнікам крымінальнага вышуку, папярэдзіўшы, што пры спробе яго затрымаць скарыстае ўзрыўны механізм, які быццам бы ёсць у яго. Сустрэча адбылася 10 лістапада ў дзесяць гадзін вечара на Прывакзальнай плошчы каля кавярні «Вясёлка». Там Н. і быў затрыманы супрацоўнікамі аператыўна-пошукавага аддзела УУС Мінгарвыканкама. Трэба аддаць належнае і іншым удзельнікам гэтай аперацыі: аператыўнікам Фрунзенскага РАУС і МУС.

Па папярэдніх звестках, Н. дні да затрымання правёў у пошуках гранаты, з дапамогай якой меў намер узяць заложніка, запатрабаваць самалёт і пакінуць рэспубліку. На шчасце, не знайшоў.

## ГОРСЭС ИНФОРМИРУЕТ

# АВОСЬ ПЕРЕВАРИМ?

Анатолий БЕЛОУС, «ДВ».

**И все-таки культура потребления — не пустой звук. В частности, то, что касается взыскательности вкуса. Ну как, скажите на милость, ей у нас прижиться? При нашем-то ассортименте и качестве товаров откуда ей взяться в нищей и убогой стране? А ведь такие свойства вышкаливаются, культивируются на протяжении десятилетий. Посмотрите, как грохочут на Западе процессы, затеваемые здешними организациями в защиту прав потребителей. Там иное сообщение в прессе равносильно приговору или несмываемому пятну на имидже фирмы. У нас же — тишь да гладь. Быть бы живу, до качества ли уж тут...**

Вот свежая информация по забраковке продуктов питания городской СЭС. Непригодной к употреблению оказалась партия чая (2500 пачек) — завышена массовая доля влаги. Нечем обрадовать и сластен-детишек. Им не удастся полакомиться карамелью на палочке. Партия около 300 килограммов поступила к нам из Польши. Увы, в ее производстве применен запрещенный краситель.

Завернули санитарные врачи почти сразу 3 партии муки. В двух из них недостаточно содержание сырой клейковины. Третья тоже грешит этим недостатком и проходила как продукт высшего качества. А по результатам экспертизы едва вытянула на второй сорт. Но не вмешайся специалисты — платить бы нам пришлось по высшей мерке. Количество такой муки исчисляется десятками тонн, сотнями мешков.

Вряд ли удастся нашему потребителю пригубить стопарик водки «Селико». В ее партии, насчитывающей 211 тысяч бутылок, пришедших из Чехии, оказалась завышена норма альдегидов.

Такой же грех отмечен и за партией водки «Русская», поставленной из Грузии в количестве около 1000 бутылок. Правда, здесь и сивушных масел было с лихвой.

— С недоброкачественной продукцией в последнее время мы сталкиваемся чаще, — замечает санитарный врач отдела гигиены питания ГорСЭС М.В.НОВИЧКОВА. — Не отвечает нашим требованиям множество ликеро-водочных изделий, особенно изготовленных в южных республиках былого Союза, случаются проколы и с молдавским вином. Братская Польша довольно часто потчует нас некондиционным кофе (особенно в вакуумных упаковках), низкопробным чаем и сомнительными сладостями. Сейчас пошли накладки с мукой. И таких случаев все больше. Не секрет, в наше смутное, переходное время многие фирмы озабочены только одним: взять весом побольше и ценой подешевле. И как тот калиф на час: только бы урвать, побыстрей провернуть деньги. А что до потребительских качеств продукции и последствий для здоровья наших граждан — дело последнее. Работают на авось, думают, как-нибудь пронесет нечистая. Уже и бракуем немалые партии, и штрафуем руководство, подчас лишаем лицензии. А с тех — как с гуся вода. Нет-нет, да и всплывает где-нибудь негодный продукт, расходится втихаря из-под прилавка. Об этом нередко нам сообщают сами же жители столицы. Потому еще раз напоминаем: требуйте у продавцов сертификат качества, смотрите на маркировку, особенно на срок годности. По меньшей мере, это убережет вас от несварения желудка...

■ К 50-ЛЕТИЮ ОСВОБОЖДЕНИЯ БЕЛАРУСИ

# КОМЕНДАНТ ПЕРЕПРАВЫ



— такую должность получил после форсирования Днепра Федор Зверев. И проявил себя лучшим образом.

К реке Федор Зверев подошел вместе с 15-ой отдельной стрелковой бригадой после прорыва Курской дуги. Бои за Днепр были нелегкие, но операция по форсированию завершилась успешно. Тогда-то и легла на плечи Федора Зверева большая ответственность за бесперебойную работу всех инженерных сооружений переправы. Ведь войска двигались на Запад и днем, и ночью. Три боевых ордена — так отметило командование участие в боях за освобождение белорусских городов Речицы, Калинковичей, Шатилок (ныне Светлогорск) кубанского казака Федора Зверева. Сегодня ветеран войны живет в Минске, он доцент Белорусской государственной политехнической академии, подполковник в отставке.



НА СНИМКАХ: Федор Зверев во время освобождения Беларуси; Федор Зверев спустя 50 лет.

Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БЕЛИНФОРМ

■ ІНТЭРВ'Ю З ЦІКАВЫМ ЧАЛАВЕКАМ

# НАШАМУ БРАТУ, ПАЛІТЗЭКУ, ПАСЛАБЛЕННЯЎ НЕ РАБІЛІ

**На пытанні спецыяльнага карэспандэнта «ДВ» Алеся МІКАЛАЙЧАНКІ адказвае госць Мінска, былы палітычны вязень былога СССР, наш зямляк Міхаіл Ігнатавіч КУКАБАКА.**

**— Паважаны Міхаіл Ігнатавіч, беларуская дэмакратычная інтэлігенцыя сімпатызуе Вам як першаму дысідэнту ў гісторыі нашай рэспублікі, што ў 70-80-х гадах падзяліў лёс соцень тысяч палітзняволеных — турмы, высылкі, «псіхушкі»... Раскажыце, калі ласка, трохі пра сябе тым чытачам «Добрага вечара», якія наогул нічога не ведаюць пра Міхаіла Кукабаку...**

— Я нарадзіўся ў 1936 годзе ў горадзе Бабруйску. Дзяцінства маё такое ж, як і ў многіх маіх аднагодкаў, — сіроцкае ды паўгалоднае, без уласнага кутка: бацька загінуў на фронце, маці ад хваробы памерла ў партызанах. Я выхоўваўся і гадаваўся ў дзіцячым доме, скончыў будаўнічае вучылішча. Па накіраванні ў 1953-м трапіў на ўдарную камсамольскую — узводзіў у далёкім Ангарску нафтахімічны камбінат, быў неблагім машыністам крана і экскаватаршчыкам. Што зробіш, не было каму за мяне заступіцца, хто меў бацькоў, тыя ў Сібір накіраванне не атрымалі...

**— З чаго пачалася Ваша дысідэнцкая біяграфія?**

— З пратэсту супраць уводу ў Чэхаславакію савецкіх войскаў у 1968 годзе, з байкатавання чарговых выбараў у мясцовыя Саветы...

**— Гэта былі мітынгі з Вашым удзелам?**

— Ды не, звычайная агітацыя паміж сяброў ды знаёмых, абмен думкамі. Уласна, я заўсёды казаў, што я — антыкамуніст, не хаваў сваіх палітычных поглядаў у любой кампаніі, з любымі субяседнікамі. Зразумела, за мною даўно КДБ сачыў... Але былі таксама больш сур'ёзныя «вещдоки». Напрыклад — мой артыкул «Адкрыты ліст англійскаму пісьменніку Айвару Мантэгю», з якім я хацеў выступіць у заходнім друку супраць памянёнага брытанца. Справа ў тым, што пасля ўцёкаў у Вялікабрытанію савецкага пісьменніка Кузняцова Айвар Мантэгю, член ЦК Кампартыі Злучанага Каралеўства, у «Комсомольской правде» надрукаваў артыкул, насычаны злобнымі выпадамі ў адрас уцекача. Вось я і «ўрэзаў» па англічаніну...

**— Мусіць, тады і «селі» ўпершыню...**

— Так, у красавіку 1970 года мяне арыштавалі. Інкрымінавалі сумна знакаміты артыкул 190' КК СССР — яўная хлусня і антысаветчына.

**— Адсядзелі ад званка да званка?**

— Зразумела. Нашаму брату, палітзэку, паслабленняў не рабілі. Хаця, калі нехта здраджваў сваёй ідэі барацьбы з таталітарызмам, таму «касцілі» тэрмін зняволення.

**— У Вас асабіста былі такія магчымасці?**

— Былі. Яшчэ падчас першай адсідкі. Тады следчы з Уладзімірскага абласнога ўпраўлення КДБ Павел Яўсееў (імя па бацьку я ўжо забыў) мне прапанаваў, каб я даў паказанні, што адна з высокапастаўленых асобаў Пасольства ФРГ у Савецкім Саюзе, статс-сакратар Мюлер, сустракаўся са мною. Я на гэта не пайшоў. У выніку мяне завезлі ў інстытут Сербскага, што займаецца вывучэннем праблем псіхіятрыі, а адтуль — у спецпсіхбальніцу ў Сычоўку на Смаленшчыне. Такім чынам мой тэрмін «падвоіўся»: з трох да шасці год. Пасля вызвалення ў маі 1976 года мяне яшчэ двойчы запіхвалі ў псіхушку — у лістападзе 1976-га і ў кастрычніку-лістападзе 1977-га.

**— За што ж тады?**

— За распаўсюджванне тэксту Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прынятай ААН, і самвыдатаўскай дысідэнцкай літаратуры...

**— Карацей, доўга на волі гуляць не давалі...**

— У 1978 годзе мяне арыштавалі і пасадзілі па артыкулу 186' КК БССР. Я тады жыў і працаваў у Беларусі, у Бабруйску. Артыкул 186' адэкватны таму ж артыкулу 190' КК СССР — антысаветчына, паклёп на краіну з мэтай дыскрэдытацыі прынцыпаў яе грамадскага ладу і г.д.

**— У чым жа заключаўся «паклёп»?**

— У маіх публіцыстычных выступленнях у сродках масавай інфармацыі Захаду. Асаблівую злосць КДБ выклікалі тады мае матэрыялы — нарыс «Украдзеная Радзіма» (гэта — пра палітыку русіфікацыі ды разбурэнне нацыянальнай і рэлігійнай культуры на Беларусі, што праводзілі КПСС-КПБ і эсэсэсэраўска-бээсэсэраўскія ўлады), нататкі «Спатканне з дзяцінствам» (пра культурнасацыяльны заняпад беларускай вёскі), палітычныя артыкулы «Абарона правоў чалавека і разрадка непадзельныя» і «Два словы пра Сахарава, Сычоўскую псіхбальніцу і савецкі гуманізм»... У кастрычніку 1978 года пасадзілі, даўшы тэрмін тры гады, а выпусцілі толькі праз 10 гадоў...

**— Цікава, якая тэхналогія падаўжэння гэткай «пасадкі»?**

— Не дужа складаная. У турме супрацоўнікі оперчасткі пастаянна з падачы органаў КДБ мяне псіхалагічна апрацоўвалі, даючы ведаць: калі пакаюся, то выпусцяць датэрмінова. Я адмаўляўся. Пакаяльных лістоў не падпісваў. А ў канцы тэрміну зняволення адбываўся закрыты суд. І мне за тое, што я нібыта працягваў у турме займацца антысавецкай прапагандай ды іншымі дзеяннямі, якія падпадаюць пад юрысдыкцыю артыкула 186', дабаўлялі яшчэ два разы па тры гады. Такія судзілішчы нада мною адбываліся ў 1981 і 1984 гадах.

**— І знаходзіліся сведкі Вашых новых «антысавецкіх дзеянняў»?..**

— Іх вербавалі. Звычайна — сярод крымінальнікаў, якія за пару пачак чаю гатовыя былі маці родную прадаць.

**— Як я разумею, алоўка ці аўтаручкі, паперы Вы не мелі, пісаць матэрыялы ў заходнія СМІ не маглі...**

— Гэта ўсё ў мяне было. Але справа ў іншым. Бачыце, пад артыкулы 186' і 190' падпадае не толькі пісанне матэрыялаў для газет або радыё. Дастаткова вусных «антыдзяржаўных» выказванняў. А я, напрыклад, калі мяне сілком цягнулі на палітзаняткі, заўсёды спасылаўся на свае антыкамуністычныя погляды і антысавецкія перакананні. Так што аформіць на мяне «новы» тэрмін кэдэбістам нічога не каштавала. Асабліва вызначаўся старшы следчы па асоба важных справах Віцебскага УКДБ Анатоль Салаўёў. Ён нават ад майго імя напісаў артыкул для заходніх СМІ, што пасля фігураваў на адным з тых судоў...

**— Калі ж Вас, нарэшце, выпусцілі на волю?**

— У снежні 1988 года. Калі Гарбачоў рыхтаваў сваю знакамітую паездку ў ЗША. Тады сусветная супольнасць вельмі востра ставіла пытанні аб палітычных цкаваннях грамадзянаў у СССР. Дык вось, я быў па тэрмінах «выпуску» самым апошнім палітзэкам Савецкага Саюза з ліку «чыстых», тых, што не падпісалі абяцання больш ніколі «не займацца антыдзяржаўнай дзейнасцю». Тады тых, хто падпісваў гэткія «авансы», у масавым парадку вызвалялі з кэдэбісцкіх гулагаў.

Толькі ў 1987 годзе, па маіх даных, палітзэкаў пад гэтыя «абяцанкі» выпусцілі каля 300 чалавек. К снежню 1988 года ў СССР нас, «упартых», заставалася ўсяго трое: я — у зоне строгага рэжыму і Міхаіл Аляксееў — у зоне асабліва строгага рэжыму, што размяшчаліся ў раёне станцыі Усявяцкая Пермскай вобласці, а ў Чыстопалі — піцерскі рабочы Барыс Міцяшын. Мяне выпусцілі 2 снежня, самым апошнім з гэтай тройкі. Якраз за суткі да дня свайго нараджэння...

**— Прабачце, але нашым чытачам цікава, як склалася Ваша, Міхаіл Ігнатавіч, асабістае жыццё?**

— Мусіць ніяк. Сям'і не ўдалося завесці, самі разумееце, турма ды краты — не лепшыя ўмовы для гэтага. Жыву зараз у Маскве: дзякуй земляку, дэмакрату і пісьменніку Алесю Адамовічу, украінскаму народнаму дэпутату Генрыху Алтуняну, іншым добрым людзям — яны дапамаглі мне «выбіць» кватэру. Працаваць машыністам крана ці экскаватара ўжо не магу — дыскваліфікаваўся. Перабіваюся выпадковымі заробкамі — звычайна грузчыцкімі работамі. Заўсёды недзе трэба, каб нехта ўзяў на горб болей ды занёс падалей...

**— Не спрабавалі пераехаць у Беларусь?**

— Спрабаваў. У мінулым годзе прасіўся ў старшыні Магілёўскага гарсавета спадара Габрусева даць мне від на жыхарства ў ягоным горадзе, прасіў хаця пакойчык у камуналцы нават памерам з турэмную камеру. Адмовіў. Рэзка, катэгарычна... А потым я дазнаюся: за рознага ладу махінацыі, у тым ліку і за кватэрныя, гэты чалавек «зляцеў» з пасады. І гэта называецца дэмакрат!..

**— Не адышлі ад палітычнай дзейнасці?**

— Не адышоў. Я з'яўляюся сябрам расійскай радыкальнай партыі. Не ўсё ў яе праграме мне падабаецца. Але патрабаванне радыкалаў адмяніць абавязковую воінскую павіннасць і смяротныя пакаранні мне па душы. Яшчэ я — член выканкама Беларускай лігі правоў чалавека. Супрацоўнічаю з Маскоўска-Хельсінскай праваахоўнай групай. У Мінску якраз збіраю рознага роду даныя, каб стварыць адзіную ў СНД інфармацыйную сетку праваахоўных арганізацый тыпу нашай групы.

**— Ваш позірк на сённяшнюю Беларусь?**

— Адразу ж скажу: з захаваннем правоў чалавека тут тугавата. І апошнія судовыя працэсы супраць дэмакратычных журналістаў, пісьменнікаў і палітыкаў у інтарэсах прабальшавісцкіх сіл — сведчанне гэтаму. Але дэмакратычныя змены ў Расіі паўплываюць і на дэмакратызацыю ў Беларусі. Скажу адназначна, што расійскія дэмакраты пастараюцца **зрабіць усё, каб Беларусь неператварылася ў нацыянальны** камуністычны запаведнік. Ну а як беларус, я выступаю за незалежнасць і нейтральнасць Беларусі, за тое, каб адзінай дзяржаўнай мовай была беларуская, каб Беларусь не ўступала з Расіяй ні ў якія саюзы — ні ў эканамічныя, ні ў палітычныя. Толькі нармальныя міждзяржаўныя зносіны! І тут я падтрымліваю Беларускі народны фронт, іншыя партыі і арганізацыі дэмакратычнага накірунку. Самае каштоўнае і для чалавека, і для краіны — свабода. Па сабе ведаю. Што тычыцца камуністаў, хай і яны будуць у палітычнай палітры любой дзяржавы. Але без іхніх прэтэнзій на ўсталяванне дыктатуры пралетарыяту, іншых таталітарысцкіх прымхаў і памкненняў...

**— Што Вы хацелі б пажадаць мінчанам?**

— Усвядоміць, што толькі палітычная актыўнасць, высокая дэмакратычная і нацыянальная свядомасць кожнага беларуса дапамогуць вывесці нашу Радзіму з заняпаду.

■ ВІНШУЕМ

## Узнагароджаны «Ганаровай граматай» Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў

ВІЛЬГЕЛЬМ Герк — інжынер германскай фірмы «Баб Кок»;

КЛІНГШПУР Густаў — прэзідэнт германскай фірмы «Баб Кок»;

КАММЕРЦЭЛЬ Гюнтэр — камерцыйны дырэктар германскай фірмы «Баб Кок»;

ЛІНК Хартмут — прыват-дацэнт Гановерскага медыцынскага інстытута;

ПАЛІВОДА Пол — прафесар, кіраўнік гематалагічнай службы Гановерскага медыцынскага інстытута;

РОМЕР Ёган Вільгельм — генеральны сакратар Германскага Чырвонага Крыжа;

ЛУКАРЭЛЛІ Гуідо — кіраўнік Цэнтра трансплантацыі касцявога мозгу г.П'езаро (Італія);

БЕРЛОНІ Антоніо — старшыня «Фонда Берлоні» (Італія) за актыўны ўдзел у праектаванні, будаўніцтве Рэспубліканскага цэнтра трансплантацыі касцявога мозгу, а таксама ў падрыхтоўцы кадраў і фінансавай дапамозе цэнтру;

САФОНАЎ Іван Іванавіч — генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання прамысловых прадпрыемстваў «Белкамунмаш» за значны ўклад у развіццё камунальнай гаспадаркі і энергатранспарту г.Мінска;

ВУЯЧЫЧ Віктар Лук'янавіч — спявак, народны артыст Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік Рэспубліканскай дырэкцыі эстрадна-цыркавога мастацтва за заслугі ў развіцці беларускага эстраднага мастацтва і ў сувязі з 40-годдзем творчай дзейнасці.

■ ЗАПРАШАЕМ

# А НА КІРМАШЫ БАБІНА ЛЕТА...

Яркімі фарбамі «Бабінага лета» ўспыхнуць вітрыны і стэнды выстаўкі-кірмашу «Восень Міншчыны-93», якая пройдзе ў Мінску з 16 па 19 лістапада. У многіх мінчан з'явіцца рэдкая магчымасць купіць якасны тавар — свежую агародніну і садавіну, свежыну, смачныя, прыгатаваныя па дамашніх рэцэптах каўбасы і кумпякі.

З дапамогай гэтай выстаўкі калгасы і саўгасы, фермерскія гаспадаркі, аграфірмы, вытворчыя аб'яднанні Мінскай вобласці вырашылі паказаць свой тавар лепшым бокам, і не толькі сельгаспрадукты. У шырокім асартыменце будуць прадстаўлены падсобныя промыслы. Тут можна будзе знайсці ўсё — ад гузіка да высакаякаснай мэблі з дрэва. Кожны, хто пабывае на кірмашы, зможа пераканацца, што хоць і цяжка цяпер вёсцы, а не перавяліся тут і народныя ўмельцы, і майстры вырошчваць цуда-агародніну.

Як адзначылі ў аргкамітэце выстаўкі, яе мэта — вывучыць попыт на прадукцыю райсельгаспродаў, а таксама заключыць кантракты на пастаўку агародніны і садавіны на наступны год. Арганізатары кірмашу разлічваюць, што ў рамках гэтага агляду пройдуць сустрэчы кіраўнікоў аграпрамысловых падраздзяленняў з прадстаўнікамі камерцыйных структур. Магчыма, будуць заключаны дагаворы аб сумесным супрацоўніцтве.

Паводле папярэдніх даных, у выстаўцы прымуць удзел 22 раёны Мінскай вобласці.

**Наталля НЕВІДОМАЯ.**

## БЕЛАРУСЬ ДАЛУЧАЕЦЦА ДА ГАТТ

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМа ў аддзеле інфармацыі МЗС рэспублікі, на сесіі Савета прадстаўнікоў дагаворных бакоў генеральнага пагаднення па тарыфах і гандлю разгледжана просьба прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь аб далучэнні Беларусі да генеральнага пагаднення ў якасці яго паўнапраўнага члена.

Савет прадстаўнікоў на аснове кансенсуса прыняў рашэнне аб стварэнні рабочай групы, у кампетэнцыю якой уваходзіць разгляд практычных пытанняў далучэння Беларусі да ГАТТ.

Састаў рабочай групы і яе старшыня будуць вызначаны пазней, пасля правядзення старшынёй Савета прадстаўнікоў кансультацый з зацікаўленымі членамі ГАТТ і прадстаўнікамі рэспублікі.

**БЕЛІНФАРМ.**

■ КОНФЕРЕНЦИИ

## Свет в конце «экономического туннеля»

16-17 ноября в Минске состоится Международная научно-практическая конференция: «Причины кризиса и пути оздоровления экономики». Ее учредители: Комиссия Верховного Совета Республики Беларусь по промышленности и услугам населению, исполком Минского городского Совета народных депутатов, Научно-экономический центр «Экон», БГУ, БГЭУ, Белорусский государственный институт научно-технической информации и прогноза Совета Министров РБ, Ассоциация предприятий и объединений с долевой собственностью работников, Белорусская конфедерация промышленников и предпринимателей, Национальный центр стратегических инициатив «Восток — Запад».

На конференции будет представлен доклад оргкомитета с научно обоснованной концепцией экономического механизма, который должен содействовать быстрому подьему эффективности работы предприятий, активному развитию производства и предпринимательства. В докладе содержатся конкретные меры, способные повысить заинтересованность работников в конечных результатах производства, предложения по принципиальному изменению системы налогообложения.

Предварительно данная концепция была рассмотрена на кафедре экономических наук Белгосуниверситета, в ряде министерств и ведомств, в Комиссии Верховного Совета по промышленности и услугам населению.

**Анатолий ВИТКОВСКИЙ.**

■ ПРЕДСТАВЛЯЕМ

## «Наша Уручча»

Минчан не удивишь кабельным телевидением, студии которого есть уже в каждом районе. А вот газета подобного локального масштаба явилась новинкой.

Сломать стереотип решили Комитет общественного руководства микрорайона Уручье и депутат Мингорсовета М.Буснюк, начав издавать газету «Наша Уручча». Уникальное издание, второй номер которого появился в столичных киосках «Белсоюзпечати», рассчитано в первую очередь на жителей микрорайона, но не будет безынтересным и для любого минчанина, желающего узнать о своем городе, вернее, о небольшой его частичке, что-то новое.

**Юрий ДОМНИЧ.**

■ ОБРАЗОВАНИЕ

# В МИНСКЕ УЧАТ АРАБСКИЙ

**Папа Усман НГОМ, студент ф–та журналистики БГУ.**

**В Минском государственном лингвистическом университете (он же — всем известный «иняз») арабский язык уже с 1991 года преподается для белорусских студентов как третья специальность. Это была первая в Беларуси возможность изучать не только европейские языки, но и арабский. Поэтому мы решили задать несколько вопросов Мамбуху Хамадаю из Сирии, который работает здесь преподавателем:**

**— Как появился этот новый для белорусских вузов предмет и как к нему относятся студенты?**

— Арабский язык преподается только для желающих студентов как третья специальность, помимо двух основных. Такие занятия начались в 1991 году. Сначала пришло большое количество студентов, но потом многие перестали приходить. И для этого есть ряд причин: сложность самого языка для белорусских студентов, трудная письменность (у арабского, как вы знаете, она своеобразная, не похожая на латинскую и кириллицу).

Чтобы улучшить работу, разделили студентов на две группы. Каждая группа работает с одним преподавателем три года. После этого нововведения стало заметно: знаний у студентов существенно прибавилось. На сегодняшний день уже есть даже наши выпускники, которые работают переводчиками в некоторых арабских странах.

**— Какие трудности встали перед «инязом» с введением преподавания этого сложного языка?**

— К организации преподавания отнеслись очень серьезно. Хотя после 1991 года появились всем известные проблемы, связанные с переходом к рыночной экономике. И это как бы задерживало наметившиеся планы преподавания арабского языка. Вторая причина — сложность самого языка. Ведь нужно учиться как минимум три года, чтобы нормально изъясняться на арабском. При изучении английского или французского этого не требуется. Разумеется, организация обучения требует больших средств (перевод учебников, затраты на переводчиков и преподавателей, практика и экскурсии в арабских странах). Конечно, нынешнее финансово-экономическое положение вуза не позволяет реализовать все планы в полном объеме.

**— Каким вы видите будущее изучения арабского языка в Беларуси?**

— На мой взгляд, арабский язык станет важным и нужным для бизнесменов, для специалистов белорусской внешней торговли, так как со временем неизбежно будут развиваться отношения с арабским миром. Будут открываться посольства, наладится торговля, следовательно, потребуются переводчики. Для Беларуси наверняка было бы выгодно сбывать изделия своей тяжелой промышленности (станки, тракторы, холодильники и др.) на ближневосточном и североафриканском рынке. А для арабских стран тоже полезны экономические связи с Беларусью (туризм, нефть, экспорт фруктов и другой сельскохозяйственной продукции и т.д.). Поэтому я полагаю, что новой независимой стране очень важно уделить соответствующее внимание арабскому языку и подготовить собственных специалистов.

## МОЛАДЗЬ ІМКНЕЦЦА ДА РАСШЫРЭННЯ КАНТАКТАЎ

У Боне паміж прадстаўнікамі Федэральнага Міністэрства па справах жанчын і моладзі Федэратыўнай Рэспублікі Германіі і Камітэтам па справах моладзі пры Савеце Міністраў Беларусі падпісана камюніке аб двухбаковым супрацоўніцтве ў галіне маладзёжнай палітыкі. Як адзначаецца ў дакуменце, бакі будуць імкнуцца да расшырэння кантактаў і асабліва — наладжвання супрацоўніцтва паміж актывістамі маладзёжных рухаў дзвюх краін. Прадугледжваюцца сумеснае правядзенне семінараў, на якіх будуць абмяркоўвацца многія праблемы жыцця юнакоў і дзяўчат, павышэнне кваліфікацыі і стажыроўка, распрацоўка спецыяльнай праграмы дапамогі ў галіне прафесійнай арыентацыі моладзі, сустрэчы маладых журналістаў, дзеячаў мастацтва, а таксама арганізацыя сумесных лагераў працы і адпачынку.

**БЕЛІНФАРМ.**

■ НАВІНКА

# БЕЛАРУСКІ АЎТОБУС «ВЫВЕЗЕ» ГАЛІНУ З КРЫЗІСУ?

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у Міністэрстве транспарту і камунікацый Беларусі, цяпер на адным з былых ваенных заводаў у Лідзе ідзе зборка першага «айчыннага» аўтобуса, камплектуючыя часткі якога завезены з Расіі. Плануецца, што ў 1994 годзе такіх аўтобусаў будзе выпушчана 100 адзінак. У будучым жа мяркуецца збіраць іх да 1000 адзінак штогод. Аднак, паводле прагнозаў спецыялістаў, такой «светлай» будучыні чакаць яшчэ як мінімум гады тры.

Рыхтуецца таксама да капітальнай рэканструкцыі Гомельскі аўтарамонтны завод: там плануецца стварэнне вытворчай базы, разлічанай на больш якасную тэхналогію рамонту.

Што ж, уласныя аўтобусы нам не пашкодзяць. Асабліва калі ўлічыць, што рухомы аўтасастаў рэспублікі знаходзіцца ў катастрафічным становішчы: ужо тры гады аўтапарк амаль не папаўняецца новымі адзінкамі, а ў наступным годзе яшчэ 50 працэнтаў аўтобусаў падлягае спісанню.

■ ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ




Мал. Яна БУСЛА

■ РЕСПУБЛИКА

## И задымят над коттеджами печные трубы

Жители поселка для переселенцев из Чернобыльской зоны в деревне Заполье Червенского района, несмотря на дефицит и дороговизну кирпича, накануне зимы активно возводят в своих благоустроенных квартирах с центральным отоплением... печи.

Как стало известно корреспонденту РИДа, местный колхоз «Беларусь», на территории которого находится поселок, в прошлом году израсходовал на его отопление почти всю имевшуюся прибыль. Нынче ни топлива для котельной, ни денег на его приобретение у хозяйства нет вообще. Правда, в перспективе планируется отапливать поселок газом, но планы сегодня, как известно, вещь ненадежная. Люди больше надеются на себя. Кстати, первым построил в своей квартире печку председатель колхоза.

## Это нужно не мертвым...

На V пленуме ветеранов войны и труда Бешенковичского районного совета собравшиеся были проинформированы председателем организации И.А.Корбан о ходе кампании по сбору денежных средств в Фонд пострадавших от чернобыльской аварии и в Фонд поддержки Мавзолея В.И.Ленина.

Как передал корреспондент РИДа, если для оказания помощи «чернобыльцам» собрано почти 100 тысяч рублей, то на поддержку Мавзолея — 213 тысяч. Однако, последняя сумма будет находиться на счету Агропромбанка до окончательного решения вопроса о захоронении тела вождя.

## «Народная тропа» к государственному бензину

Воистину «народная тропа» пролегла к цистерне с бензином, стоящей на территории Пуховичского экспериментального механического завода.

Как сообщил корреспондент РИДа, когда «стежку» обнаружили, половина топлива из цистерны уже исчезла. И хотя похитители оставили следы, найти их правоохранительным органам так и не удалось.

## Задолжать — так миллиарды

В списках должников по платежам в бюджет в Орше лидирует предприятие «оборонки» фирма «Лес».

По сообщению корреспондента РИДа, на ее складах накопилось готовой продукции на миллиарды рублей. Еще примерно столько же находится в стадии незавершенного производства в цехах.

## На «СПИДометре» — 189

189 контактов — так «отблагодарили» гостеприимный Витебск два ВИЧ-инфицированных иностранца — итальянец и танзаниец.

Как передал корреспондент РИДа, наметился в городе и подъем «традиционных» венерических заболеваний. Примечательно, что 10 процентов заболевших — несовершеннолетние.

**По сообщениям РИД.**

